© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1009) ГОД XX 29 ЧЭРВЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.




## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"

*Удзельнікі сёлетняга цэнтральнага агляду — квартэт з Тапчыкалаў у складзе: Анна Баран, Надзея Копа, Марыя Крук, Ніна Сікора.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*




Тры гады таму назад В. Леўчук у рэпартажы „У зялёнай вёсцы Гураны" („Ніва" ад 20.VIII. 1972 г.) пісала: *„Калі гуранаўскую ГРН далучылі да Крынак, застаўся прыгожы новы асабнячок на ўзгорку. Павятовыя ўлады пастараліся здабыць яго для культуры... і ў Гуранах паявіўся вясковы дом культуры, найпрыгажэйшы вясковы дом культуры ў Сакольскім павеце... Размясціліся ў светлых пакоях тут бібліятэка з чытальняй, кавярня, ёсць пакой для працы розных калектываў... Планы кіраўніка дома культуры накіраваны больш на асветныя формы працы. „Галоўнае — разварушыць людзей", — гаворыць яна"...*

І вось майскім надвячоркам бягучага года мне давялося завітаць у зялёную вёску Гураны і той асабнячок на ўзгорку. За ладнай агароджай перад ім красуюцца на клумбах кветкі і зяленіцца шаўкавістая трава на газонах. У светлых і чыстых пакоях кветкі, густоўныя дэкарацыі, добрая мэбля, тэлевізар, магнетафон, настольныя гульні, а ў чытальні — мноства часопісаў.

Мне ж карціць: „Ці ўдалося кіраўніку гэтага дома, Галене Радэль, „разварушыць" асяроддзе да ўдзелу ў культурным жыцці?"

— Цудаў мы тут не стварылі, але нешта ўсё ж зрабілі, — шчыра прызнаецца яна. — Праўда, штодзень не прыходзіць столькі людзей, каб аж сцены трашчалі. Але калі праводзім якое-небудзь мерапрыемства, тады наша глядзельная зала не можа змясціць ахвотных, і наведвальнікі стаяць на калідоры. А дзейнасць сваю пачалі мы ад таго, што выбралі адпаведны грамадскі савет нашага дома культуры: Янку Аляксеюка — дырэктара школы, Веру Аляксеюк і Ірыну Станкевіч — настаўніц, Рыгора Турыча — былога дыспетчара сельгастуртка і іншых. Усе яны — людзі з арганізатарскай жылкай. І вось дзейнічае ў нас дзіцячы тэатр, што дэбютаваў у пачатку 1973 г. пастаноўкай п'есы С. Яновіча „Сынок". Моладзь стварыла чатырохасабовы джазавы аркестр, а ў апошні час пачынае складацца і невялікі эстрадны калектыў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Дзянісіка. Яго першае выступленне, пераплеценае гумарам і сатырай на мясцовыя тэмы, надта падабалася слухачам. Адбываюцца ў нас і сустрэчы з цікавымі людзьмі. Нядаўна пабывалі ў нас:

(Працяг на стар. 4)



*Галена Радэль.*

Карэспандэнцыя з Мінска




Мінскае вытворчае аб'яднанне па птушкаводству — адно з буйнейшых у краіне. Штогод яно прадукуе больш двухсот мільёнаў яечак, нямала дыэтэтычнага мяса. Увядзенне комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі, прагрэсіўных тэхналогій дазволіла да мінімума аблегчыць працу людзей, зрабіць яе больш прадукцыйнай, займальнай.

— Калі калісьці моладзь ішла працаваць да нас не з вялікай ахвотай, дык цяпер працуе ў нас шмат юнакоў і дзяўчат, — гаворыць генеральны дырэктар аб'яднання, Герой Сацыялістычнай Працы Канстанцін Дубоўскі.

Першае, што здзіўляе пры ўваходзе ў птушнікі, — гукі музыкі. Эстрадныя мелодыі змяняюць адна другую, заглушаючы кудахтанне курнясушак. Паветра, быццам пасля кароткага летняга дажджу, напоена свежасцю. На канвееры — бясконцая жамчужная нітка яечак. Крыху вышэй — яркі нашыйнік з кветак. І ўсё заліта мяккім ружовым светам. Чаму менавіта ружовым? Спецыялісты аб'яднання заўважылі, што ён найбольш карысна ўплывае на паводзіны нясушак.

— Паміж імі спыняюцца „сваркі", устанаўліваецца атмасфера „ўзаемаразумення", адным словам, свет бачыцца ў ружовым колеры, — з усмешкай паясняе галоўны тэхнолаг аб'яднання Міхаіл Ляончанка. — Нам усё даводзіцца ўлічваць. Напэўна вы заўважылі, што з рэпрадуктара чуваць толькі эстрадныя мелодыі. Спачатку музычная праграма складалася з іншых твораў, але, уявіце, не прыйшлося па смаку птушкам. Давялося пераключыцца на лёгкую музыку.

Аглядаючы адзін такі птушнік за другім, паступова прывыкаеш да нязвыклага свету і вясёлых мелодый. І тады заўважаеш іншае: у кожным памяшканні амаль у тысячу квадратных метраў лёгка ўпраўляецца ўсяго адна птушніца. Аўтаматы дапамагаюць ёй не толькі падрыхтаваць корм, але і раздаць яго, рэгулююць мікраклімат, асвятленне, сочаць за музыкай. А спрабуйце сабраць уручную ўсе яечкі?! Але тут да іх нават не датыкаецца рука чалавека. Машыны самі збіраюць яечкі, самі мыюць іх, самі сартуюць, „вырашаючы", якім даць першую катэгорыю, якім — другую, адным даюць назву „сталовыя", іншым — дыэтэтычныя.

Заходзім у цэх гатовай прадукцыі птушкафабрыкі імя Н. К. Крупскай, якая лічыцца галоўнай у аб'яднанні. Скрынкі-соты хутка запаўняюцца свежымі яечкамі. Кожны дзень →

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



### ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

Уступаючы ў дыскусію аб сітуацыі ў навучанні беларускай мовы, хачу выясніць некалькі неўласціва інтэрпрэтаваных прынцыпаў, якія ў даны момант абавязваюць у гэтай справе. Міністэрства асветы і вышэйшых школ у пісьме з дня 28 студзеня 1972 г. № SO. Nar. — 014/72 (якога не прыводзіў Ю. Туронак), беручы пад увагу прапановы ГП БГКТ, якія датычыліся вывучэння роднай мовы вучнямі беларускай нацыянальнасці, праяўляе клопаты аб стварэнні як найлепшай атмасферы для вывучэння гэтага прадмета. Між іншым, Міністэрства пастанавіла, што стаўленне дзіцяці на вывучэнне роднай мовы (аб гэтым можна паведаміць вусна або пісьмова кіраўніку школы) з'яўляецца звязваючым. Калі бацькі не павядомяць аб рэзыгнацыі з далейшага вывучэння гэтага прадмета перад заканчэннем школьнага года, гэта азначае, што дзіця далей будзе вывучаць родную мову згодна з воляй бацькоў. У гэтай справе рашэнне могуць прымаць выключна бацькі.

Міністэрства звяртаецца да асветных улад і дырэктараў школ, у якіх вывучаецца беларуская мова, каб поўнасцю забяспечылі вучняў падручнікамі па роднай мове, каб павялічылі колькасць навуковых дапаможнікаў, купляючы іх, а прасцейшыя экспанаты выконваючы ў школе. Міністэрства прапануе арганізоўваць гурткі зацікаўлення беларус-




кай літаратурай і мовай, а таксама ўводзіць беларускую праблематыку ў праграму дзейнасці школьных гурткоў ТППР.

Польская Народная Рэспубліка, рэалізуючы ленінскую нацыянальную палітыку, стварыла спрыяючыя ўмовы для вывучэння беларускай мовы. Як яны будуць выкарыстаны грамадзянамі ПНР беларускай нацыянальнасці, гэта залежыць выключна ад іх саміх пры цесным супрацоўніцтве са школай і настаўнікамі.

Згодна з пастановамі VI з'езду ПАРП, уводзіцца рэформа асветы на вёсцы. Выходзіць новая карта праў і абавязкаў настаўніка, а таксама распараджэнне Рады Міністраў аб заробках настаўнікаў. Гэтыя дакументы і закон аб нацыянальнай адукацыі ўвялі шмат змен, у якіх не заўсёды былі ўзяты пад увагу спецыфічныя ўмовы рэгіёна, у якім адбываецца навучанне беларускай мове.

Сярод многіх заданняў, якія вынікаюць з пастаноў з'езду, галоўнае месца займае рэканструкцыя сеткі падставовых школ на вёсцы. Мэта яе — стварыць усім вясковым дзецям умовы роўнага старту дзякуючы вучобе і выхаванню ў высокаарганізаваных і добра забяспечаных школах. **Такой школай з'яўляецца зборная гмінная школа.** Тут павінна праяўляцца грамадская актыўнасць дзяцей, тут павінны фарміравацца іх грамадска-культурныя патрэбы, тут павінна развівацца фізічная культура, тут дзецям павінны дапамагчы ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях.

Рэалізацыя гэтых заданняў залежыць, зразумела, ад адпаведна падрыхтаваных да гэтага кадраў. У сувязі з тым, што настаўнікі беларускай мовы, працуючы ў вясковых школах, закончылі ў асноўным педагагічны ліцэй або СН, неабходна павышаць адукацыю гэтай групы настаўнікаў да поўнай вышэйшай, каб у будучыні маглі яны працаваць нароўні з іншымі спецыялістамі ў сярэдніх дзесяцігадовых агульнаадукацыйных школах.

У даны момант на завочным аддзяленні беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта вучыцца каля 50 настаўнікаў. Малая стабільнасць у вывучэнні гэтага прадмета выклікае цяжкасці ў наборы на гэтае аддзяленне. Група вучачыхся сёння настаўнікаў беларускай мовы і тыя, што будуць вучыцца ў наступныя гады, павінны атрымаць дапамогу Галоўнага праўлення БГКТ. У рамах супрацоўніцтва з кі-

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



з канвеера паступае іх тут 320 тысяч. А ўсё прадпрыемства дае кожныя суткі каля 700 тысяч яечак. Затраты на іх вытворчасць нязначныя, пры гэтым яны скарачаюцца, можна сказаць, з кожным днём.

Перавод гэтай галіны на індустрыяльныя рэйкі спрыяе атрымліванню высокіх прыбыткаў — у год яны складаюць каля 12 мільёнаў рублёў. Прыкладна дзесятая частка гэтых сродкаў выдаткоўваецца на сацыяльна-культурныя мерапрыемствы і жыллёвае будаўніцтва.

Вялікая ўвага прысвячаецца ў аб'яднанні развіццю культурна-масавай і спартыўнай работы. Кожная птушкафабрыка мае свой клуб і бібліятэку, розныя гурткі мастацкай самадзейнасці.

Але, бадай, найбольш сродкаў выдзяляецца на харчаванне рабочых. Уявіце сабе, снеданне, абед і вячэра для кожнага з іх абыходзіцца ўсяго ў 15 капеек. Рэшта аплочваецца з фонду сацбыту прадпрыемства.

Асноўны заробак рабочых аб'яднання складае ў месяц у сярэднім 150 рублёў. Акрамя таго, з фондаў матэрыяльнага заахвочвання яшчэ выплачваецца 55 рублёў. Такім чынам заработная плата кожнага працаўніка перавышае ў цэлым прадпрыемстве 200 рублёў.

За высокія вытворчыя паказчыкі 136 чалавек з прадпрыемства ўзнагароджана ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, а двум з іх прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы.

**І. Сярэдзіч**
**Фота В. Казлова**



*Інкубацыйнае аддзяленне фабрыкі.*



*Клетачнае ўтрыманне кур-нясушак у чатырох'ярусных батарэях.*

### РАЗВІТАННЕ З ЧАЦВЕРТЫМІ КЛАСАМІ БЕЛЬСКАГА БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ

У Бельскім беларускім ліцэі адбылося ўручэнне выпускнікам пасведчанняў аб заканчэнні ліцэя. Быў гэта ўрачысты момант.

На пачатку дырэктар ліцэя А. Карпюк сказаў уступнае слова аб вучнях чацвертых класаў. Хваліў ён клас IVa, з якім чатыры гады настаўнікам вельмі добра працавалася.

Усе вучні чацвертых класаў у гэтым годзе прыступілі да матуры. Экзамен гэты, як і заўсёды, не быў лёгкі. Але нягледзячы на цяжкасці, многа было выдатных і добрых ацэнак, бо на 209—140 ацэнак было выдатных і добрых. Вучні чацвертых класаў злажылі прысягу. Трое выпускнікоў атрымала індэксы. Усе яны дзяўчаты: Бася Гардзеюк — карэспандэнт „Нівы", Ніла Руткоўская і Бася Ігнатовіч. Яны найлепшыя вучаніцы.

Многа іншых выпускнікоў атрымала разам з пасведчаннем і ўзнагароды. А на стале ўсё большала і большала кветак прафесарам. Гэта ад вучняў плылі словы падзякі. На канец чацвертакласнікі гаварылі аб сваіх гадах у школе, успаміналі матуру. Былі ўдзячны настаўнікам за выхаванне, за працу, за навуку.

Многіх гэтых маладых людзей чакае яшчэ адзін экзамен — у вышэйшыя школы. Усяго ім найлепшага ў жыцці!

**Чытач „Нівы"**

### МАТУРЫСТЫ-СПЕЦЫЯЛІСТЫ

Моладзь апошніх класаў Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску Падляшскім закончыла матуру. На 84 асобы да матуры прыпрыступіў 81 вучань. Атэстаты сталасці атрымала 79 асоб. Гэта 94 працэнты ўсіх вучняў чацвертых класаў. Самыя добрыя ацэнкі маюць Аліна Мітkевіч і Анна Богдан. Педагагічная рада накіравала іх на далейшую вучобу ў вышэйшыя школы краіны. Яны будуць прыняты без экзаменаў. На далейшую вучобу выбіраецца яшчэ многа моладзі. Большасць аднак выпускнікоў ідзе на стаж у ПОМ-ы, ПГР-ы, СКР-ы, сельскагаспадарчыя кааператывы, сельскагаспадарчыя школы, гміны, прадпрыемствы і ўстановы.

**Мікалай Няплоха**

### ХРОНІКА БГКТ

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 14 чэрвеня наладзіў сустрэчу з актывістам БГКТ, ваяводскім суддзёй Вінцуком Склубоўскім, які выступіў з дакладам аб матэрыялістычным светапоглядзе.

## ШТО НОВАГА?

# Тунгускі метэарыт: камета ці ядзерны выбух?

„Ні тое, ні другое, — лічыць акадэмік Георгій Пятроў. — Хутчэй за ўсё 30 чэрвеня 1908 года над бязлюднымі таежнымі прасторамі Сібіры разваліўся масіўны, але вельмі рыхлы снежны камяк..."

67 гадоў таму назад падзенне Тунгускага метэарыта маглі назіраць усяго некалькі выпадковых гледачоў. Урад царскай Расіі не палічыў патрэбным накіраваць у гэты раён нават невялікую экспедыцыю. Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Леанід Кулік узначаліў першую навуковую пошукавую групу.

І хоць да таго часу мінула амаль 20 гадоў, маўклівыя абгарэлыя дрэвы яшчэ маглі многае расказаць аб катастрофе, што тут адбылася. Вывучыўшы архівы і апытаўшы сведак, Кулік пастараўся аднавіць падзеі 30 чэрвеня 1908 года. А адбылося вось што.

Асляпляльна-яркі балід пранёсся ў ранішнім небе і ўзарваўся над густым таежным лесам за 900 кіламетраў на паўночны захад ад горада Іркуцка ва ўсходняй Сібіры. Выбух быў вялікай сілы — прыкладна у 100 разоў большы, чым атамнай бомбы над Хірасімай. На плошчы 2.200 квадратных кіламетраў паваліўся лес, пачаўся грандыёзны пажар.

Такія факты. Але для вучоных яны былі настолькі дзіўныя і супярэчлівыя, што ніяк не „кладзіся" ў стройную тэорыю. Экспедыцыя Куліка адразу ж стала ў тупік: разбурэнні, якія ўбачылі даследчыкі на месцы здарэння, магло зрабіць, бадай, толькі касмічнае цела, масай не менш як сотні тысяч тон, уварваўшыся ў зямную атмасферу. Але ў такім выпадку на месцы выбуху павінен быў утварыцца кратэр глыбінёй паўкіламетра. Аднак кратэра не было. Ні вялікага, ні малога. Нягледзячы на скрупулёзныя пошукі, не ўдалося знайсці і нічога падобнага на асколкі метэарыта. Усе тысячы тон „рэчыва" бясследна зніклі. Не далі вынікаў і больш позніяя экспедыцыі дваццатых і трыццатых гадоў.

Вялікая Айчынная вайна перапыніла даследаванні. А ў 1946 годзе пісьменнік-фантаст Аляксандр Казанцаў апублікаваў апавяданне, прысвечанае загадкавай тунгускай з'яве. Апавяданне нарабіла шмат шуму. На думку пісьменніка, „метэарыт" быў касмічным караблём з іншай планеты, які пацярпеў катастрофу ў пустэльным раёне сібірскай ракі Падкаменнай Тунгускі... І хоць ніхто з сур'ёзных вучоных не прыняў версію літаратара за навуковую гіпотэзу, пра метэарыт загаварылі ізноў.

Даследаванні 1958 і 1959 гадоў далі магчымасць зрабіць вывад: выбух адбыўся не на зямлі, а ў паветры, на вышыні 10-15 кіламетраў (вось чаму адсутнічае кратэр); тэмпература выбуху была настолькі высокая, што нават тугаплаўкія металы ператварыліся б у газ або дробныя кроплі (вось чаму няма асколкаў). У раёне падзення невядомага цела сапраўды знайшлі толькі дробныя шклопадобныя шарыкі з высокім утрыманнем крэмнію і шчолачных металаў. „Умарожаныя" ў іх газавыя бурбалкі ўтрымлівалі вуглякіслы газ, вокіс вугляроду і серавадарод. Але агульная маса „шарыкаў", паводле самых аптымістычных меркаванняў, не перавышала і 200 кілаграмаў.

Гэтыя адказы пацягнулі за сабой іншыя, куды больш складаныя пытанні. Адкуль узялася такая магутная энергія? Хімічныя або цеплавыя рэакцыі, якія суправаджаюць палёт звычайных метэарытаў у атмасферы, добра вядомы; яны яўна не маглі прывесці да ўсіх гэтых з'яў.

У 1960 годзе астрафізік акадэмік Васіль Фесянкоў прыйшоў да заключэння: тунгускае цела было невялікай каметай, якая сутыкнулася з Зямлёй. Паводле ацэнак амерыканскага астранома Гаральда Юры, такія сутыкненні за доўгую гісторыю нашай планеты адбываліся сотні разоў. Паколькі каметныя ядры не могуць, як правіла, пераадолець супраціўленне зямной атмасферы, то знешнія сляды катастроф даволі хутка знікаюць.

Праўда, з такім заключэннем згодны далёка не ўсе. І таму паведамленне акадэміка Георгія Пятрова „Аб прыродзе Тунгускага метэарыта" 26 лютага 1975 года на навуковай сесіі Аддзялення агульнай фізікі і астраноміі Акадэміі навук СССР прыцягнула надзвычай вялікую аўдыторыю. Канферэнц-зала Фізічнага інстытута імя П. Лебедзева ў Маскве была перапоўнена да адказу, прысутнічаў і аўтар „касмічнай гіпотэзы" пісьменнік-фантаст Аляксандр Казанцаў.

Акадэмік Пятроў прааналізаваў усе вядомыя навуцы факты аб тунгускай загадцы з пункту гледжання законаў газавай дынамікі. Матэматычныя разлікі пераканаўча сведчаць: амаль усе катастрафічныя з'явы можна растлумачыць, калі меркаваць, што Тунгускі метэарыт — гэта гіганцкі камяк снегу і пылу, масай не менш як 100 тысяч тон. Гэта „снежная баба" ўварвалася ў атмасферу Зямлі са скорасцю некалькіх дзесяткаў кіламетраў у секунду па параўнаўча пакатай траекторыі, пад вуглом каля 20 градусаў да гарызонта. Да-

(Працяг на стар. 4)




**Sobota 28.VI.** 8.40 Pr. dnia. 8.45 Pr. I prop. 9.00 Pilnujcie Zuzi — film fab. NRD (komedia). 10.35 Radar. 10.50 Koncert z Ogólnopol. Fest. Folklor. w Płocku. 11.50 Brazylia nieznana. 12.15 Inf. Tur. 12.35 Pios. dla Ciebie. 13.25 Scena Monodram: A. Czechow — „O szkodliwości palenia tytoniu" 13.50 Panorama kulturalna — Szczecin — Warszawie. 15.00 Studio 2. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Studio 2.

**Niedziela 29.VI.** 6.25 Tech. Rol. Ochr. rośl. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now., w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Królestwo krzywych zwierciadeł — film radz. 10.15 Antena. 10.30 W starym kinie. 11.50 Ideał — komedia — opera St. Moniuszki. 13.10 Dzien. 13.35 Tydzień. 14.05 Piórkiem i węglem. 14.30 Lekt. Pegaza. 14.45 O śmiechu prawie wszystko. 15.45 Los. Toto-Lot. 16.00 Tele-Echo. 17.00 Sport. 18.00 Progi i bariery. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Dobr. dla dor. 20.25 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Fest. Pol. Pios. — Opole 75 — Mikrofon i Ekran. 23.05 Sport.

**Poniedziałek 30.VI.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Kr. Warsz. i Maz. 17.10 Echo stad. 17.35 TELEFERIE. 18.45 Film. 19.00 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. I. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: W. Szekspir — „Król Henryk IV". 22.00 Pr. muz. 22.35 Dzien.

**Wtorek 1.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pr. lokalny. 17.00 Kiedy Sahara była zielona — film dok. wł. 17.25 Lato z pomysłem. 18.05 Nie tylko dla pań. 18.30 Fakty, op., hip. 19 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" odc. II. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Rancho w dolinie — film ser. USA — odc. I. 21.15 Ekran i życie — Spotkanie z psychotroniką. 22.20 Dzien. 22.35 Sport. 22.45 Kabaret Starszych Panów.

**Środa 2.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pr. lokalny. 17.00 Los. Mał. Lot. 17.10 Miasto w czerni — film ser. węg. odc. I. 18.00 Poligon. 18.20 Świat i Polska. 19.00 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. III. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Filmoteka Arcydzieł: Rocco i jego bracia — film fab. wł. 22.15 Dzien. 22.30 Sport.

**Czwartek 3.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pr. lokalny. 17.00 Inf. tur. 17.30 TELEFERIE 18.45 Czym żyje świat. 19.05 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. IV. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp. radz. 20.25 Jak w powieści — film ser. USA (Columbo). 21.45 Pegaz. 22.30 Dzien. 22.55 Sport.

**Piątek 4.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pr. lokalny. 17.00 Encyklopedia zwierząt — film dok. 17.35 Tuzin — teleturniej. 18.05 Próba. 19.05 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. V. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Jabłonie (Zaśpiewajmy to jeszcze raz). 20.50 Panorama. 21.35 Judym czyli czyn społeczny — film ser. TVP (Czterdziestolatek). 22.25 Dzien. 22.45 Sport.




**Piątek 27.VI.** — 9.00 Fab. film ser. Początek. 17.00 Koncert. 17.45 Fab. film ser. II część. 19.30 Pr. rozr.

**Sobota 28.VI** — 9.00 Fab. film ser. 11.15 Film fab. 12.50 Koncert. 14.50 Śpiewa N. Kondraciuk. 16.15 Filmy anim. 16.45 W świecie zwierz. 17.55 Teatr miniatur. 19.30 Panorama film. 21.00 Śpiewa Chrystowa.

**Niedziela 29.VI** — 11.45 Film fab. 13.05 Koncert. 13.55 Panorama międzynar. 14.25 Pr. muz. 15.00 Klub film. 16.15 Film anim. 16.30 Film dok. 17.00 P. nożna. Torpedo — Ararat. 2 połowa. 17.45 Wieczór autor. komp. Łuczenki. 19.00 Czas. 19.30 c.d. wiecz. autor. 20.30 Na Spartakiadzie Nar. ZSRR.




**Białowieża** Wesoły romans — radz. 1—2. Druga twarz ojca chrzestnego — wł. 3—4. Miłość i anarchia — wł. 5—6.

**Czyże** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. Małżonkowie roku II. — radz. 2—6.

**Dubicze Cerkiewne** Wódz Prusów — radz. Życie dla miłości — jug. 2—6.

**Gródek** Orzeł i reszka — pol. 5—6.

**Kleszczele** Bokser — pol. 1—2. Kraksa — wł. 3—4. Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. 5—6.

**Michałowo** Taśmy prawdy — USA 1—2. Dzień oczyszczenie — pol. 3—4. Aferzystka — radz. 5—6.

**Milejczyce** Operacja Y — radz. 1—2. To ja zabiłem — pol. 3—4. Gniazdo — pol. 5—6.

**Narew** Pójdziesz ponad sadem — pol. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 2—6.

**Narewka** Kasztany miłości — wł. Weronika — węg. 2—6.

**Nurzec** Gniewna podróż — bułg. 1—2. Życie raz jeszcze — pol. 3—4. Dowódca łodzi podwodnej — radz. 5—6.

**Orla** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. Narkotyk — fr. 2—6.

**Rajsk** Szaleństwo miłości — nor. Potop — pol. 2—6.

B.Z.Graf. zam. 1730 P-1



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

*Наш каляндар*

## Пятрусь Броўка



Нарадзіўся **Пятрусь Броўка** 25 чэрвеня 1905 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Пуцілкавічы на Віцебшчыне. У 1926 г. у газеце „Чырвоная Полаччына" і альманаху „Наддзвінне" паяўляюцца яго першыя вершы, у якіх пачынаючы аўтар дае выраз захапленню сацыялістычнымі пераўтварэннямі ў маладой савецкай краіне і выказвае жаданне сваім паэтычным словам служыць рэвалюцыйным здзяйсненням. Ужо нават назвы першых зборнікаў яго вершаў „Гады як шторм" (1930 г.), „Прамова фактамі" (1930 г.) і „Цэхавыя будні" (1931 г.) сведчаць пра надзённую актуальнасць гэтай творчасці. Але з яе „бурапеннасці" і „прадукцыйнасці" — уласцівай, зрэшты, амаль усёй тагачаснай маладой беларускай савецкай паэзіі — вырастаюць у П. Броўкі дзве выдатныя гістарычныя паэмы: „Праз горы і стэп" (1932 г.) і „1914" (1933 г.). У першай з іх з суровай прастатой і ўзнёслым рамантызмам паэт расказвае пра драматычны баявы шлях Самарскай кавалерыйскай дывізіі, у другой жа даецца патрасаючы вобраз трагедыі простага салдата былой царскай арміі. Затым выходзяць зборнікі вершаў „Прыход героя" (1935 г.), „Вясна радзімы" (1937 г.), паэма „Кацярына" (1938 г.), зборнік „Шляхамі баравымі" (1940 г). Асабліва ўвайшоўшыя ў апошні з іх творы, дзе любоў да роднай прыроды, захапленне яе прыгажосцю з'явіліся сродкам паказу багатага свету пачуццяў і перажыванняў чалавека, сталі трывалым здабыткам беларускай паэзіі.

У ваенны час з-пад яго пяра выходзіць шэраг высокамастацкіх вершаў і паэм, прасякнутых глыбокім патрыятызмам, сярод якіх „Паэма пра Смалячкова" і паэма „Беларусь" належаць да самых выдатных твораў беларускай літаратуры ваеннага часу.

Яшчэ дымiліся папялішчы на вызваленай беларускай зямлі, калі П. Броўка прыступіў да напісання страсных антываенных паэм „Ясны кут" (1944 г.), „Паланянка" (1945 г.) і „Хлеб" (1946 г.), у якіх праўдзіва паказаў гора асірочаных вайною людзей, трагедыю замучаных у фашысцкай няволі і радасць былых воінаў, што вярнуліся да родных аселіц сеяць, даглядаць і збіраць ураджай.

З надзвычай плённай творчасці П. Броўкі ў пасляваенныя гады глыбінёй зместу і майстэрствам формы вылучаюцца творы, увайшоўшыя ў зборнікі „Пахне чабор" (1959 г.) і „Далёка ад дому" (1960 г.). У першым з іх лірычны герой зачараваны красою жыцця, у другім жа — вачамі савецкага чалавека глядзіць на бездань супярэчнасцей г.зв. „свабоднага свету".

Не чужой для П. Броўкі з'яўляецца і проза. У 1931 г. выйшла яго аповесць „Каландры" (экранізаваная ў 1934 г.), потым нарысы. У рамане „Калі зліваюцца рэкі" (1957 г.) ён паказаў еднасць савецкіх народаў у іх стваральным будаўніцтве камуністычнага грамадства. Пяру П. Броўкі належыць таксама лібрэтта опер „Міхась Падгорны" і „Дзяўчына з Палесся" (апошняя напісаная разам з Я. Рамановічам).

П. Броўка — актыўны грамадскі дзеяч, член ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР. Яму прысвоена ганаровае званне народнага паэта БССР. Узнагароджан двума ордэнамі Леніна і іншымі ордэнамі і медалямі, з'яўляецца лаўрэатам Ленінскай прэміі, двойчы лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР і Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа.

І ў нашыя дні талент Петруся Броўкі дорыць нам красачныя і актуальныя творы.

(іс)

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА „ПАНА ТАДЭУША" ПА-БЕЛАРУСКУ




У пачатку гэтага года мы атрымалі другі сшытак „Studia Polono-Slavica-Orientalia" з вельмі цікавай працай Зофіі Скібінскай-Харыла „Аб перакладах „Пана Тадэуша" на беларускую мову". У ёй аўтар робіць аналіз усіх апублікаваных да гэтага часу і неапублікаваных беларускіх перакладаў. Высока ацэньвае пераклад Тарашкевіча ў адносінах як формы, так і зместу. Знаходзіць у ім нават радкі, якія ў перакладзе Тарашкевіча, на яе думку, набіраюць своеасаблівага блеску".

Для тых чытачоў „Нівы", якія не памятаюць або не чыталі артыкула ў „Палітыцы" ад 11.VIII.1973 года пад загалоўкам „Пан Тадэуш" па-беларуску", падаем інфармацыю, што тэкст перакладу Тарашкевіча, над якім працавала Зофія Скібінская, гэта копія рукапісу Тарашкевіча, якая захавалася ў яго другой жонкі ў Маскве, Ніны Аляксадраўны Тарашкевіч. Фотакопія гэтага тэксту знаходзіцца сёння на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Рукапіс перакладу раней лічыўся загінуўшым.

Нядаўна дайшла да нас вестка з Вільна і Радашковіч, што **знойдзены рукапіс аднаго са сшыткаў Тарашкевіча з перакладам двух апошніх кніг, XI і XII „Пана Тадэуша"**, высланага ў 1932 годзе з гродзенскай турмы, дзе Тарашкевіч зрабіў гэты пераклад. Пішуць аб гэтым мне першая жонка Тарашкевіча — Вера Андрэеўна, піша Людвіка Войцік. З іх лістаў вынікае, што ў кватэры былой бухгалтаршы беларускага банка ў Вільні Марыі Мікалаеўны Паўловіч (жонкі былога дырэктара беларускай гімназіі ў Вільні), якой цяпер ужо 90 год, пры ўборцы быў знойдзены тоўсты сшытак, на якім відаць наступны надпіс: „Taraszkiewicz Bronisław, „Pan Tadeusz", сшытак нр. 6". На апошняй старонцы рукапісу ёсць подпіс памочніка начальніка турмы, а таксама словы: „Grodno, 20 stycznia 1932 roku".

На жаль, ніхто з жывучых сёння ў Вільні і Радашковічах не ведае, хто і калі даваў гэты рукапіс на перахоўванне ў банк. Асобы, якія пісалі мне, аднак, прыпомнілі, што не быў гэта адзіны выпадак, калі каштоўныя беларускія друкі захоўваліся менавіта ў беларускім банку. Так, напрыклад, Вера Андрэеўна прыпомніла, што матрыцы „Граматыкі" Тарашкевіча таксама захоўваліся там.

1974 год быў прыхільны для памяці Тарашкевіча. У часе майго прабывання ў Вільні мне ўдалося знайсці два прыватныя лісты Тарашкевіча, адзін да пракурора і некалькі цікавых дакументаў, звязаных якраз з перакладам „Пана Тадэуша". Гэтыя дакументы дазваляюць глянуць больш крытычна і жыва на ўмовы, у якіх гэты пераклад быў зроблены. Але ніводзін з іх не ўзбудзіў столькі рэфлексій, колькі менавіта гэты рукапіс.

Ад таго моманту, калі я прыйшла да вываду, што пераклад гэты Тарашкевіч зрабіў у камеры гродзенскай турмы ў 1931-1932 гадах, я старалася сабраць як найбольш інфармацый аб гэтай турме. Але ўсё гэта датычылася больш агульных умоў, а не самой, калі так можна сказаць, тэхнікі перакладу. Можна здагадвацца, што Тарашкевіч вельмі цаніў прывілеі, якія давалі яму магчымасць уцячы з акружаючага яго свету і гадзінамі жыць у свеце Міцкевіча. Але аднача-сова непакоіла Тарашкевіча думка аб ізаляцыі яго ад рэшты палітычных вязняў. Кожная, аднак, спроба пераламаць гэты бар'ер пагражала стратай прывілеяў да працы, якая давала вялікую сатысфакцыю. Працаваў вельмі напружана. Да якой ступені даходзіла гэтае напружанне, я зразумела толькі тады, калі ўбачыла надпіс на апошняй старонцы шостага сшытка рукапісу: „У гэтым сшытку знаходзіцца 96 (дзевяноста шэсць) нумараваных старонак, якія нельга вырываць". Пад гэтым відаць неразборчывы подпіс памочніка начальніка гродзенскай турмы. Кожная старонка лічылася! За кожную, бадай, няраз вымушаны быў змагацца. Бо кожная старонка — гэта ж была магчымасць кантактавацца з калектывам! Меў ён такую абмежаваную колькасць паперы (і гэта толькі цяпер да мяне дайшло), што вымушаны быў большую частку перакладу, а таксама папраўак (!) рабіць у памяці, што не адзін раз быў пазбаўлены магчымасці бачыць сваю працу на паперы ў часе працы над тэкстам. Ведаем, што гэта значыць для пішучага. Сапраўды тытанічная была гэта праца!

Зофія Скібінская піша, што „аб перакладзе „Пана Тадэуша", нямнога было вядома". Гэта праўда. Яшчэ менш аб гэтым пісалася. Але сёння так сказаць нельга. Ёсць шмат дакументаў аб перакладзе, ёсць нарэшце нават рукапіс аднаго сшытка, трывалы доказ для недаверкаў. Здаецца, што прыйшла адпаведная пара, каб перакладам Тарашкевіча зацікавіліся адпаведныя ячэйкі Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук і выдалі яго, дадаючы абшырнае апісанне ўмоў, у якіх пераклад быў зроблены.

Знаходка рукапісу дала мне вялікую сатысфакцыю. Зразумела, тое, што быў ён знойдзены ў 1975 годзе, было выпадкам. Але невыпадкова блізкія Тарашкевіча, тыя, для якіх памяць аб ім вельмі дарагая, пачалі шукаць тое, што пасля яго засталося. Раней не рабілі гэтага, паколькі былі перакананы, што ўся яго творчая праца была знішчана вайною. Мне здаецца, што лепш прытрымлівацца прынцыпу: „Шукай, дык знойдзеш". Найчасцей гэты прынцып перамагае.

Другое. Ужо даўно, супастаўляючы дакументы, даты і г.д., я прыйшла да вываду, што Тарашкевіч перакладаў „Пана Тадэуша" ў Гродне (нягледзячы на тое, што даволі дакладнае абследаванне архіва канцылярыі гродзенскай турмы ніякіх вынікаў не дало). Але былі гэта толькі гіпотэзы. Дакумента, на якім было б сказана „чорным на белым", я не мела. Цяпер такі дакумент ёсць.

**Аляксандра Бергман**

## ФЭСТЫН У ЛІТВІНАВІЧАХ

Наша беларускае таварыства выконвае вялікую палітычна-выхаваўчую работу, арганізоўваючы кожны год народныя фэстыны, на якіх збіраецца заўсёды многа людзей. У бягучым годзе народныя фэстыны БГКТ прысвечаны 30-ай гадавіне перамогі над фашызмам. Першы такі народны фэстын адбыўся 8 чэрвеня ў Літвінавічах, што ў гміне Нурэц. Арганізатарам яго быў мілейчыцкі аддзел БГКТ і гурток БГКТ у Літвінавічах. Шмат дапамаглі ў яго падрыхтоўцы ўпраўленне гміны і ГС у Нурцы. Але найбольш напрацаваўся мясцовы гурток БГКТ, а асабліва яго старшыня Анатоль Леўчук і Міхась Ажэхоўскі.

Сцягі і вялікія чырвоныя палотнішчы з прывітальнымі надпісамі, прывезеныя з лесу бярозкі, якімі быў абстаўлены пляц святліцы і прычэпа-трыбуна, — усё гэта стварыла нязвыклы, прыемны настрой.

На некалькі гадзін перад урачыстасцю сталі збірацца тут людзі ўсялякага ўзросту. Нават дзядуля Кірыл Кердалевіч — найстарэйшы член гуртка, якому 89 год, прыйшоў сюды, на сваё свята.

Перад пачаткам урачыстасці прыехалі мікробусы нурэцкага ГС-у, дзе можна было купіць розныя ласункі і нешта



*Выступаюць „Васілёчкі" з Бельска.*

перакусіць, бо і каўбаса была, і піва, і іншыя прадукты. Нават марожанае ды так званая „вата" былі прывезены для вясковых дзяцей.

Пасля поўдня прыехаў аўтобус ГП БГКТ з мастацкімі калектывамі і прадстаўнікамі ГП на чале са старшынёй Міколам Самоцікам. Даклад прачытаў сакратар аддзела БГКТ у Мілейчыцах — Міхась Вішанка. Гаварылася ў ім аб страшэннай гітлераўскай акупацыі і барацьбе супраць яе. Найбольш увагі было прысвечана слаўнаму савецкаму народу, яго непераможнай арміі, якая палажыла канец фашысцкаму панаванню. Даклад быў добрай выхаваўчай лекцыяй, зрабіў ён вялікае ўражанне на слухачоў.

Затым былі новыя, іншыя ўражанні, гаварылася аб прыгажосці роднага беларускага слова і песні, аб прыгажосці беларускай культуры. На трыбуну ўвайшоў харавы калектыў БГКТ „Васілёчкі", у рэпертуары якога знаходзіцца большасць беларускіх песень. Кожная з іх атрымоўвала многа воплескаў. Гарачыя былі апладысменты таксама пасля кожнага выступлення жаночай вакальнай групы з Тапчыкал, якая выконвала арыгінальныя фальклорныя песні. З Тапчыкал выступала таксама маладзёжная вакальная група.

Працаўнікі ГП Людміла Васілюк і Янка Крупа вялі канцэрт, і жартоўныя творы ў іх выкананні выклікалі многа смеху.

Нурэцкі ГС арганізаваў таксама на фэстыне паказ моды, дамашняй механізацыі і прылад для гаспадынь.

Народныя музыкі, на якіх танцавала моладзь, закончылі фэстын БГКТ з нагоды 30 гадавіны разгрому фашызму.

**М. Хмялеўскі**



*Удзельнікі фэстына.*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

## Ці ўдалося разварушыць ?..

беластоцкі пісьменнік А. Амільяновіч, навуковы работнік з інстытута млекакормячых Польскай акадэміі навук др Л. Альшэўскі, знаўца гісторыі і культуры польскіх татараў М. Канапацкі, акцёр беластоцкага лялечнага тэатра Т. Бжэзінскі. Але самай памятнай для Гуранаў і наваколля была сустрэча з другім сакратаром Пасольства СССР у Польшчы Эгілам Дэглавым з нагоды 30-ай гадавіны падпісання Дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Польшчай і Перамогі над фашызмам. Цудоўная ўрачыстасць! І нашыя самадзейнікі, асабліва школьная моладзь пад кіраўніцтвам Я. Аляксеюка, таксама карысна паказалі сябе. Не скажу, каб усё так гладка тут ішло. Колькі не спрабуем прыхіліць да самадзейнасці старэйшых жыхароў, яны ўсё адмахваюцца: „А куды ж мне там на сцэну, зараз людзі смяяцца будуць!..“ Але Вера Аляксеюк і тут зрабіла першы ўдалы крок. Арганізавала яна вечарыну „Песні даўнія і забытыя“. За шклянкай чаю чатыры нашы найлепшыя старэйшыя спявачкі паказалі, што патрапяць. А я ў душы хаваю надзею, што з гэтага мо народзіцца мясцовы фальклорны калектыў...

— Наша бібліятэка разам з яе пунктамі ахоплівае сваёй дзейнасцю Гураны, Нятупу, Шацілы, Свідзілаўку, Ляшчаны, Грыбоўшчыну Новую і Старую, — кажа бібліятэкар Ядвіга Лапуць. — Чытачоў маем каля 400, у мінулым годзе яны пазычылі 6 495 кніг. Цікава, што ва ўзросце да 30 год сярод чытачоў пераважаюць хлопцы і мужчыны, а сярод старэйшых — жанчыны. Але першынства ўсё ж належыць школьнай моладзі. Людзі чытаюць пераважна ваенную літаратуру і класікаў польскай, рускай, заходняй літаратур. Кніга тут трывала замацавалася...

Што ж, вясковы дом культуры ў Гуранах стварыў сабе трывалы базіс для дзеяння і патрапіў „разварушыць“ наваколле.

**М. Гайдук**
Фота аўтара



...двіга Лапуць.

(Працяг са стар. 2)

## Тунгускі метэарыт: камета ці ядзерны выбух?

сягнуўшы шчыльных слаёў атмасферы, снежны камяк рэзка затармазіў (бо шчыльнасць яго была невялікая — не больш чым адна дзесятая долі шчыльнасці вады), нарадзіўшы ўдарную балістычную хвалю і разагрэўшыся да тэмпературы 30-40 тысяч градусаў Цэльсія. Ударная хваля паваліла лес, а разагрэтыя газы запалілі яго.

Ці могуць існаваць такія снежныя камякі ў космасе? Могуць, лічыць акадэмік Пятроў. У 1965 годзе над Канадай адбыўся падобны выбух, — праўда, у значна меншых маштабах, чым у Сібіры, але падобны. Як яны ўтвараюцца ў сусвеце, колькі часу жывуць — гэта пакуль невядома.

Аднак прэстыж сучаснай навукі не дазваляе ёй пакідаць „адкрытыя пытанні“. Магчыма, гэтым і тлумачыцца такая цікавасць да загадкі „Тунгускага дзіва“.

**В. Люсціберг**

## Гарадскія зарысоўкі



*Кааператыўныя блокі ў Бельску.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

### ПАСЛЯ АДМІНІСТРАЦЫЙНАЙ РЭФОРМЫ

## Раённы суд у Бельску

У суд, як у бальніцу, лепш, вядома, не пападаць. На жаль, у жыцці ўсякае здараецца. Суды ніколі не наракалі на недахоп працы. Для прыкладу, у мінулым годзе павятовы суд ў Бельску разглядаў кожны дзень па 3-4 цывільныя справы і па 2-3 справы карныя.

— Нашы суддзі, — заяўляе намеснік раённага суда ў Бельску, — суддзя **Дарыюш Сламчынскі,** — перагружаны працай. Здараецца, што рабочы дзень зацягваецца ў нас да позняга вечара.

— Якія змены ў працы вашага суда наступілі ў сувязі з адміністрацыйнай рэформай?

— Паколькі не стала паветаў, дык няма цяпер і павятовых судоў. **Суд у Бельску Падляшскім атрымаў цяпер правамоцтвы раённага суда першай інстанцыі.** Раней наша дзейнасць распасціралася на Бельскі і Гайнаўскі паветы. **Цяпер у нашым раёне дзейнасці апынуліся таксама жыхары былога Сямяціцкага павету,** аднак без гмін Цехановец і Перлеева, якія асталіся за межамі Беластоцкага ваяводства.

— Ці гэта абазначае, што суд у Сямяцічах спыняе сваю дзейнасць?

—Так, усе справы былога павятовага суда ў Сямяцічах пераймае наш раённы суд у Бельску. Такім чынам, наш суд становіцца другім па велічыні судом у новым Беластоцкім ваяводстве. Будзе ў нас працаваць 12 суддзяў.

— Якія яшчэ змены здзяйсняюцца ў вашым судзе?

— Ажыццяўляем поўнае аб'яднанне дзейнасці каморнікаў з судом. Ад каморнікаў у многіх выпадках залежыць выкананне судовых прыгавораў. Дагэтуль у іх адрас наплывала многа засцярог. Цяпер каморнік будзе працаваць у судзе. (вр)

## УДАЛЫ ВІЗІТ

Белавежскі нацыянальны парк наведалі два навуковыя працаўнікі з беларускай часткі пушчы — міколаг (грыбазнаўца) Павел Міхалевіч і ветэрынар Уладзімір Гаеўскі. Яны прывезлі з сабой тры кароткаметражныя фільмы, падрыхтаваныя савецкімі кінастудыямі ў Белавежскай пушчы. Таварыства прыяцеляў Белавежы і Прыродазнаўчы музей арганізавалі ў кіно „Зубр“ публічную дэманстрацыю прывезеных кінастужак. Перад сеансам П. Міхалевіч коратка расказаў, як гэтыя фільмы былі рэалізаваны і як іх ацанілі савецкія гледачы.

Першым дэманстраваўся фільм „Грыбы“. Ён быў пастаўлены ў 1973 г. маскоўскай кінастудыяй па загаду Міністэрства асветы. Працавала над ім група вучоных, сярод якіх быў таксама П. Міхалевіч. Фільм знаёміць з відамі грыбоў, іх жыццём і значэннем для медыцыны і харчавання.

Другі фільм — „Белавежскі зубр“ С. Крэсніцкага знімаўся ў 1970 г. Ён паказаў гэтага найпапулярнейшага ў пушчы звера ў розныя поры года і ў розных сітуацыях.

Трэці — „Белавежская пушча“ Сяргея Сплашнова, пастаўлены ў 1968 г., прадстаўляе на канве візіту фатографа М. Ананіна жыццё пушчы.

Усе тры фільмы былі рэалізаваны на каляровых кінастужках. Два апошнія зніміліся беларускімі кінастудыямі. Пасля дэманстрацыі фільмаў П. Міхалевіч і У. Гаеўскі адказвалі на пытанні гледачоў.

**Пётр Байко**




## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XI

**Фальклорныя творы.** Народны матыў у творчасці Гаруна гэта тэма, якой мала цікавіліся крытыкі. Тым часам фальклорны струмень настолькі моцны ў творчасці паэта, што можам Гаруна смела ставіць у адзін рад з тымі беларускімі пісьменнікамі, якія праграмна набліжалі сваю паэзію да паэзіі народнай. Якія былі прычыны творчага зацікаўлення Гаруна беларускімі фальклорнымі традыцыямі, цяжка сказаць. Вырашэнне гэтай праблемы было лягчэйшым у выпадку Багдановіча. Бацька яго быў фальклярыстам. Цётка свядома захоўвала народную абраднасць. Паэт меў доступ да многіх беларускіх фальклорных зборнікаў. Урэшце, Багдановіч быў адарваны ад радзімы, і гэта таксама спрыяла зацікаўленню ўсім далёкім, усім страчаным. Не ведаем, ці ў сям'і Гаруна быў нехта, хто культываваў фальклор. Вядома, што ў гарадскім рабочым асяроддзі намнога радзей, чым у вясковым сустракаюцца энтузіясты народнасці. Значыць, з сямейнай крыніцы, мабыць, Гарун не зачарпнуў народных матываў. Аднак катэгарычнага „не“ выказваць тут нельга. Можа, і ў сям'і Гаруна быў нехта такі. Апрача гэтага, як мы ўжо гаварылі, Гарун у дзяцінстве часта выязджаў на вёску. Там, несумненна, мог сутыкнуцца з народнымі казачнікамі і песеннікамі. І ўрэшце, Гарун доўгія гады правёў у Сібірскай ссылцы. Вядома, што ў такой сітуацыі ў чалавека адзываюцца галасы радзімы. Тады зелень роднага луга — найзелянейшая, родныя лясы — найвышэйшыя, родная песня — найпрыгажэйшая, родны народ — найшляхетнейшы. Ідэалізацыя былога, роднага — з'ява заканамерная, лагічная.

Сваю прыродную схільнасць — балючую любоў да айчыны Гарун свядома культываваў. Паэт дасканала ведаў, што толькі гэты сардэчны агонь паможа вытрымаць, асвятліць сібірскую цемру, паказаць шлях да айчыны.

Хто ведае, быць можа, Гарун у Сібіры сустракаў землякоў. Калі так, дык няма сумненняў, што ўсе яны апавядалі розныя гісторыі, звязаныя з краем. Кажуць, турэмшчыкі, катаржнікі, ссыльныя не любяць апавядаць сумных гісторый. Проста на момант хочуць пабыць у ілюзорнай краіне, якая дыяметральна адрозніваецца ад іх сітуацыі. Гэтым, мабыць, трэба тлумачыць тое, што амаль усе фальклорныя творы Гаруна вясёлыя і камічныя.

Фальклорная лірыка Гаруна выразна пярэчыць усім тым, хто хоча бачыць у ім выражальніка бязвыхаднасці, песімізму, жаху. Не пярэчым, што ў творчасці Гаруна не мала смутку, аднак патрыятычныя вершы, многія грамадскія і фальклорныя творы сведчаць аб моцным вітальным струмені бадзёрасці.

Да найбольш цікавых фальклорных твораў Гаруна належаць: „Журба і смехацццё“, „Каму што“, „Спрэчка“, „Канец Паўлючонка“, „Шчасце Мацея“.

(Працяг са стар. 1)




раўніцтвам кафедры беларускай філалогіі ГП БГКТ павінна дазволіць карыстацца ім бібліятэкай таварыства.

Першы намеснік міністра асветы і выхавання, дацэнт др габ. Волчык так акрэслівае мадэль новай школы: „Адкрытая школа, або інакш асяроддзевая школа — гэта такая школа, якая адкрыта на ўсе праблемы асяроддзя, у якім яна дзейнічае, для якой не чужым з'яўляецца комплекс ведаў і вопыту яе вучняў з асяроддзя, якая ў дыдактычным і выхаваўчым працэсе звяртаецца да гэтага вопыту і поўнасцю выкарыстоўвае яго.

Можна было б сказаць, што гэта школа актыўная, заангажаваная, стараючаяся пераламаць дыспрапорцыю паміж дыдактычнай і выхаваўчай функцыямі, дзякуючы поўнаму выкарыстанню праблематыкі асяроддзя для інтэнсіфікацыі яе выхаваўчага ўздзеяння“.

Педагагічны калектыў зборнай гміннай школы павінен акрэсліць мэты выхавання, навучання і апекі згодна з патрэбамі і магчымасцямі асяроддзя. Пры гэтым неабходна звяртаць увагу на спецыфіку беларусаў, пражываючых у нашым ваяводстве. Асабліва вялікае значэнне мае тут дзейнасць школы ў галіне культуры, праца над абуджэннем уражлівасці, зацікаўленняў і культурных патрэб дзяцей, моладзі і дарослых. Немалую ролю павінны выканаць тут і самі бацькі, грамадскія арганізацыі, а перш за ўсё звенні БГКТ. Цеснае супрацоўніцтва школы з асяроддзем, з бацькамі і ўстановамі, функцыянуючымі там, выкарыстанне ў праграме прадшколля і школы багатых, прагрэсіўных традыцый польскага і беларускага народаў, а таксама здабыткаў народнай рэгіянальнай беларускай культуры — стварыць спрыяючую атмасферу для вывучэння беларускай мовы.

Каб рэалізаваць гэтыя заданні, акрамя адпаведных кадраў з вышэйшай адукацыяй і сістэматычна вучачыхся на розных курсах і канферэнцыях, патрэбны адпаведныя праграмы, падручнікі, літаратура і навуковыя дапаможнікі. У сувязі з гэтым неабходна звярнуцца да асветных улад у справе апрацоўкі новай праграмы па беларускай мове для рэфарміраванай школы з дзесяцігадовым перыядам навучання, а таксама нехапаючых падручнікаў, дапаможных і метадычных матэрыялаў для настаўніка, каб забяспечыць правільнае рэалізаванне дадатковых тэм па роднай гісторыі. У справе апрацоўкі дапаможных і метадычных матэрыялаў для настаўнікаў Міністэрства асветы і вышэйшых школ у пісьме з дня 24 студзеня 1972 г. падзяліла погляд ГП БГКТ.

Вывучэнне беларускай мовы ў школе не можа адбывацца ва ўмовах горшых, чым адбываецца вывучэнне іншых прадметаў. А тут якраз справа не выглядае добра. Апрача недахопу навучальных дапаможнікаў, занадта мала ініцыятывы праяўляюць настаўнікі і дырэкцыя школ пры стварэнні класаў-працоўняў або прадметных кабінетаў.

Дынамічнае развіццё нашай краіны спрыяе хуткім зменам у нашым жыцці, вось, напрыклад, рэформа дзяржаўнай адміністрацыі і асветы, а разам з гэтым змены ў сітуацыі навучання беларускай мове. Да гэтых змен неабходна прыстасаваць арганізацыю вывучэння гэтага прадмета, запэўніць далейшае яго выкладанне ў зборных гмінных школах.

**Я. Зенюк**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ВЕР-НЕ-ВЕР

### ДУБ

Сёння падаем гараскоп людзей, што **нарадзіліся 21 сакавіка, у дзень веснавога перасілення.**

Дуб бывае поўны жыцця, моцны, у яго выглядзе няма нічога крухкага. Ходзіць ён маестатычна і сваім салідным выглядам узбуджае давер.

У дуба зазвычай бывае добрае здароўе. Гэта для яго вельмі важна, паколькі не пераносіць ён слабасці і хвароб, а на кроў мог бы зарэагаваць ірвотамі.

Дуб вельмі адважны, але яго адвага выплывае не столькі з недахопу ўяўлення, колькі з празмернага гонару. Ён не хоча, каб бралі яго за труса і часта апераджае выпадкі, рэагуючы больш востра, чым патрабуе гэтага сітуацыя.

Трывалы і валявы, дуб не любіць адмаўляцца ад раз прынятага рашэння і найчасцей дасягае пастаўленых перад сабою мэт. Але не любіць уступаць і гэта мае таксама дрэнныя бакі: дуб не ўмее быць эластычны і гэта дадае яму не раз клопатаў. Многа б яму дапамагла дыпламатыя.

Бывае больш чым незалежны — ён самавольны, не пераносіць ніякіх абмежаванняў; але прызнае таксама незалежнасць іншых.

Добразычлівы і гасцінны, любіць быць гаспадаром, верны ў сяброўстве. Не заўсёды аднак бывае такі ў каханні. З'яўляецца тут істотай нясталай, ахвярай чарговых пачуццяў, пераканалай кожны раз, што „цяпер то ўжо назаўсёды". Ажаніўшыся, з часам можа супакоіцца.

Салідна асаджаны, быццам уросшы ў сваё асяроддзе, нямнога хоча і ўмее змяняць і з недаверам прымае змены, якія накідаюць іншыя. Дуб — кансерватыўны. Нягледзячы на тое, што ад часу да часу можа зрабіць прыслугу, то не бывае ён бескарысны. Усю ўвагу канцэнтруе перш за ўсё на сваіх уласных справах. Не цікавіць яго жыццё іншых.

Паглынаюць яго справы канкрэтныя. Ён чалавек працы, не пазбаўлены аднак інтуіцыі. Належыць да людзей, якія незалежна ад акалічнасцей заўсёды „выходзяць на сваё". Звычайна прыносіць сваім блізкім дабрабыт.

Астрон

## Куток практычных ведаў




### ЗАЎСЁДЫ МОДНА

Выйшлі з моды парыкі, якія парылі галаву і рабілі жанчыну ненатуральнай. Ужываюць іх цяпер у рэдкіх выпадках.

Нямодныя таксама і вялікія, натапіраваныя галовы. Кожная жанчына стараецца зрабіць прычоску як найбольш натуральную. Што датычыць колеру валасоў, то таксама найбольш модны колер натуральны. Модна выглядае невялікая галава.

Як вядома, вясною, а асабліва летам, у час доўгага прабывання на сонцы, валасы слабеюць, становяцца крухкія і ламлівыя. Вось некалькі парад, даступных кожнай жанчыне, якая хоча, каб здаровая карона валасоў упрыгожвала яе:

- выпіваць штодзень 3-4 шклянкі малака;
- есці шмат гароднiны і тварагу;
- два разы ў дзень расчэсваць валасы шчоткай ва ўсіх напрамках; не рабіць гэтага толькі пры вельмі тлустых валасах;
- вечарам, перад сном, расчасаўшы валасы, уціраць у скуру галавы пальцамі вадкасць „Л-102", крапіўную ваду, або спецыяльную настойку з зёлаў.

Сяброўка



## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: А. і Б. падзяліліся гаспадаркай бацькі, толькі каля 1 га зямлі засталося непадзеленай: абое выкарыстоўвалі яе супольна на пасбішча. А. зараў палавіну тае зямлі і пасеяў жыта, а на другой частцы не пазваляе Б. пасвіць яго быдла. Ці можна патрабаваць ад А., каб ён не перашкаджаў Б. карыстацца з супольнай зямлі?

АДКАЗ: Закон ахоўвае таго, хто карыстаецца з нерухомай маёмасці, незалежна ад таго, ці мае ён на гэта права. Уласнік не мае права самавольна займаць участак, хоць бы той, хто з яго карыстаецца, не меў да гэтага ніякага права. Уласнік, калі той, хто карыстаецца без праўнай асновы з яго зямлі, не хоча яе звярнуць, можа дамагацца звароту яе судом.

Больш складаная сітуацыя, калі ўчасткам зямлі карыстаюцца супольна асобы, якія з'яўляюцца супольнымі ўласнікамі ўчастка. Калі адзін з іх не дапускае другога да супольнага карыстання, можна гэтага патрабаваць судом толькі тады, калі існуе магчымасць гэткага супольнага карыстання. Напрыклад, участак з'яўляецца пасбішчам, на якім абое пасуць сваё быдла. Іншая справа, калі адзін з іх заарэ і засее ўчастак, і другі ў гэтым выпадку не можа далей карыстацца з участка. Такі спор можна вырашыць, толькі патрабуючы знясення супольнай уласнасці.




Дарагое „Сэрцайка"!

З Колем хадзіла я яшчэ ў сярэдняй школе. Ён закончыў школу на год раней і распачаў вучобу ў вузе. Праз год тое ж самае мела зрабіць і я. Але здарылася інакш. Пад канец школьнага года я зацяжарыла. Колькі ж было бяды, калі даведаліся бацькі, але нейк супакоіліся і наладзілі вяселле. А маці Колі не згаджалася, каб жаніўся са мной. Ён адзін у яе, мае добрую кватэру, але пасля вяселля мы асталіся жыць у маіх бацькоў, нявыгадна, цесна, бо ў нас сям'я не малая, але цёшча не захацела нас прыняць да сябе. Коля пакінуў вучобу, пайшоў працаваць, я не працавала — займалася дзіцём. Днём сама ў хаце, але як вернуцца ўсе дамоў, у хаце цесна, тут і дзіця малое. Бурчаць адзін на аднаго, непрыемная, нервовая атмасфера. Коля, калісьці такі ветлівы, мілы, цяпер зусім змяніўся, стаў нейкі ўспыльчывы. Дакарае, што з-за мяне вучыцца перастаў. Пачаў пазней з працы выходзіць, а ўжо суседка казала, што нават з нейкай дзяўчынай яго бачыла. За гэта зрабіла я яму скандал. Ён не прызнаўся, кажа што ўсё гэта плёткі, што вытрываць у гэтым доме ўжо нельга. Узлаваўся, пайшоў з хаты і вярнуўся позна п'яным. Ды гэта ўжо і паўтараецца. Як жа будзе далей, што рабіць, як жыць? Парай, „Сэрцайка".

Ася з Беластока

Ася! Сапраўды нялёгкі пачатак вашага супольнага жыцця, а ўсё таму, што няма ўмоў, і завялі вы сям'ю вельмі маладымі. Паступілі неразважліва, непрадумана, як многія маладыя і вось вынікі — ты не пайшла вучыцца, Коля перарваў вучобу, жыць няма дзе, малое дзіця... Адсюль і нервовасць, і непаразуменні, ды хоць суседці ты так лёгка не вер і не сварыся з мужам. Паступай разважліва, спакойна пагавары, старайся стварыць прыемную атмасферу. Ён жа малады муж і бацька, дык патрабуе рады і падтрымкі. Асноўная справа ў вас — кватэра. Свой куток мець вельмі важна. А тады, калі падрасце дзіця, вы зможаце і за навуку ўзяцца — адробіце страчанае.

„Сэрцайка"




3

Шчыліны на зломах у бетоне былі дзе-нідзе шырокія, у іх можна прасунуць пальцы, але ўхапіцца не было як. Задраўшы ў падстолле твар, Валока як-колечы спрабаваў расхістаць абломак, ля якога цадзіўся промень, штурхнуў яго ўгору і пацягнуў на сябе. З шчыліны пасыпаўся пясок і жарства, баец адхінуў убок твар і яшчэ больш напяўся, каб як-небудзь разварушыць пліту.

Увесь час ён не забываўся пра немца ўнізе і, ледзьве скасіўшы вочы, адчуваў і бачыў яго рух на прыступках. Немец спачатку цікаўна глядзеў на марныя байцовыя спробы, затым не дужа ўпэўнена ўстаў. Валока адразу кінуў пліту і ўзяўся за аўтамат. Але вораг у другі раз амаль добразычліва ўсміхнуўся і трахнуў па рамяні кабур.

— Найн, найн, — заспакоена прагаварыў ён, махнуўшы прытым рукой. Здаецца, кабур у яго сапраўды быў пусты. Валока, з недаверам аднак, апусціў аўтамат і вылаяўся ў душы. У яго зноў заварушылася непадуладная яму насцярожанасць да гэтага чалавека-ворага. А немец тым часам, узмахваючы рукамі і кульгаючы, улез на кучу, задраў голаў, аглядзеў шчыліны і ў адным месцы прасунуў у злом пальцы.

Дзве пары рук упёрліся ў адзін кавалак бетону.

Дзіўна гэта было Валоку! Каб хто расказаў — не паверыў бы, але цяпер неяк усё выходзіла само сабой, і баец, здаецца, ні ў чым не мог папракнуць сябе. Толькі якую гадзіну назад, не бачачы і ніколі не ведаючы адзін аднаго, яны душыліся, біліся ў гэтым склепе, поўныя злосці і лютае прагі знішчэння, а зараз, нібы нічога між імі і не здарылася, суладна рвалі са столі кавалак бетону, каб выкараскацца з агульнай бяды.

Пліта краталася — трошкі ўгору, трошкі ўніз, жарства са шчылін усё сыпалася, і Валоку здавалася, што можна расхістаць і выдраць яе. Час ад часу крадком ён пазіраў на немца, які, выцягшы з шырокіх рукавоў валасатыя, загарэлыя рукі, стараўся трапляць у лад з яго намаганнямі. Загарэлы шчацiністы твар немца з добра развітай ніжняй сківіцай крывіўся ад пяску і натугі, а таксама напэўна ад слабасці; на пераносці густа высыпалі дробныя кропелькі поту. Зрэдку ён выціраў іх рукавом, размазваючы па замурзаных шчоках. Бінт на галаве, зашмальцаваны ад поту каўнер і плячо з адарваным пагонам неўзабаве густа абсыпаў пыл. Валока чуў блізкае нярoўнае немцава дыханне, тупанне яго ботаў побач са сваімі, і ад гэтае блізкасці ці ад суладнасці агульных намаганняў тое варожае, што ўвесь час жыло ў ім да гэтага немца, пачало меншаць, раставаць і прападаць. Невыразна яшчэ адчуваючы ў сабе тую змену, Валока бянтэжыўся і чагосьці не мог зразумець у сабе.

Так яны варушылі тую зломіну хвілін дзесяць, але яна ўсё ж не паддавалася. Немец зморана дыхаў, ды і Валока прымлеў і нарэшце апусціў рукі. Запылены тонкі праменьчык струнка ўпёрся ў запарушаны пяском немцаў бот.

— Халера, — сказаў баец, з прыкрасцю паглядзеўшы ў столь. — Сілы мала.

— Я, я, — зараз жа ціха адгукнуўся немец. Ён таксама з клопатам агледзеў столь і зусім нечакана, марудлівым няўмелым намаганнем, вымавіў: — Малё сілы.

Валока варухнуў запарушанымі пяском бровамі, здзіўлена паглядзеў на немца — разумее, чмур!

— Што, фарштэй па-руску?

— Малё, малё, — сказаў немец і ўсміхнуўся. — Вітэбск руска фрау... гражданка малё-малё учыль.

— Глядзі ты! Ось дык фокус!

Баец злез з цаглянае кучы, стомлена апусціўся на канец пагнутай бэлькі і палез у кішэню — як заўжды ў цяжкім клопатным стане захацелася закурыць, „праясніць мазгі". Аўтамат ён прыткнуў між калень. Немец, нібы чакаючы гэтай перадышкі, таксама з гатоўнасцю сеў, дзе стаяў, — пад самым промнем на цэгле. Параненую нагу беражна выцягнуў перад сабой.

— Фокус, фокус... Не знай, што то ест, — казаў ён, крывячы твар ад болю.

— Ге! — упэршыню ўсміхнуўся і Валока. — Гэта, брат, не адразу і зразумееш...

Заскарузлымі пальцамі баец развязаў вышыты пеўнямі кісет, дастаў складзены кавалак газеты, насыпаў і разраўняў махорку. Пасля крутнуў разы два матузком-завязкаю, але спыніўся, спадылба зірнуў на немца, трохі развазвыўся і махнуў кісетам.

— Лаві!

Немец зноў, відаць, не зразумеў сэнсу слова, трошкі спазніўся лапнуць далонямі, але ўсё ж ля самых ботаў кісет злавіў.

— О, рус махорка! — сказаў ён і па чарзе адной і другой наздрою панюхаў кісет. Пасля няўмела разматаў тугую завязку і неяк вельмі няспрытна згарнуў цыгарку.

(Працяг будзе)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

